# ПАГОНЯ

*РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ-ВІЛЬНЯ-БЕЛАСТОК* *ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.*

*№ 13(69)* *6-12 траўня 1994 г.* *Кошт 150 руб.*


**ЛЕШЭК БАЛЬЦАРОВІЧ:** *Рэформа патрабуе кампэтэнтнасьці й палітычнай волі.*

*Везьці* **ЛЕТАКІ ПРАЗ УСЮ ЭЎРОПУ НА АЎТОБУСЕ,** *адкруціўшы папярэдне крылы....*

*Масква будзе больш лічыцца з краінамі Балтыі,* **КАЛІ ЯНЫ СТАНУЦЬ ДЗЕЙНІЧАЦЬ РАЗАМ.**

**ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ:** *Менск – Варшава – Масква.*

## БЕЛАРУСІ ПАТРЭБНЫ САПРАЎДНЫ ЛІДЭР

**Аляксандр ВАЎКОВІЧ,20 ГОД:"Зянон Пазьняк - гэта апошняя надзея беларусі".**

Пільна сачу за ўсчаўшымся на Бацькаўшчыне зборы подпісаў на кандыдатаў у прэзыдэнты. Прэтэндэнты то тут, то там сустракаюцца з насельніцтвам, кажуць прамовы, даюць абяцанкі. Асабліва не спадабаўся мне ваяж прэм'ера В.Кебіча па Палесьсі. На сустрэчах гэты высокастаўлены чыноўнік цісну на абяцанкі, маляў, "запрэце рублёвая зона, на тэрыторыі суверэннай Беларусі будуць дзейнічаць законы Расеі, тады і ўсе цяжкасьці прэч". Звычайнаму люмпэну ды вэтэранам абяцанкі прэм'ера даспадобы. Пляскаюць у далоні, мараць пра танную каўбасу (як той самы Кебіч - пра танныя энэрганосьбіты). Ужо зноўку зьбіраюцца ехаць на БАМ, асвойваць цаліну. Увесь малюнак даўно вядомы. Пра тое, як Беларусі стаць сапраўды незалежнай, паважанай, - ні слова. На такія пытаньні Кебіч моршчыцца, згадвае, што толькі аб'яднаньне з Расеяй - сапраўднае шчасьце й захаваньне суверэнітэту.

Іншая справа - спадар Зянон Пазьняк. Ён на сустрэчах высакародны. Разглядае будучыню нашай дзяржавы як эўрапейскай краіны. Надае шмат увагі раздзяржаўленьню, прыватызацыі. Мне, маладому, слухаць такое да густу. Хачу быць гаспадаром на сваёй зямлі. Вырашаць яе лёс, дабрабыт. Валодаць вытворчасьцю, вызначаць палітыку. А такое можа атрымаць толькі вольны чалавек у вольнай дзяржаве. За гэта, і толькі за гэта й змагаецца Пазьняк. Таму я й мае калегі будзем галасаваць за Пазьняка як апошнюю надзею нашай Беларусі і ўсіх тых, хто хоча чалавекам звацца.

* * *

**Сяргей ЯСКОВІЧ, камэрсант:"Мне больш даспадобы як прэзыдэнт Зянон Станіслававіч, чым хто кольвечы іншы".**

Даўно працую на заходнім рынку. Вылатна бачу розьніцу між Эўропай і Ўсходам. Эўропа - гэта цывілізаваны рынак бізнэсу, працы, быту. Усход - заблытаная сытуацыя, дзе на цывілізаваныя мэтады кіраваньня ніхто не глядзіць, не прымае. Менавіта туды нас клічуць паны В.Ф.Кебіч, А.Р.Лукашэнка. Зянон Пазьняк, наадварот, намагаецца накіраваць нас на Эўропу. Таму я буду галасаваць за спадара Зянона, бо толькі такі прэзыдэнт патрэбны на Беларусі.

* * *

**Іван Раманавіч ЦЯРЭШКА, лекар ТМА-2:"Асабіста я буду галасаваць за Зянона Пазьняка. Думаю, што так зробіць большая частка маіх калег".**

Зянон Станіслававіч не адзін год змагаецца за тое, каб на зямлі беларускай гаспадарылі грамадзяне Беларусі, а не іншыя наежжыя людзі. Таксама лідар БНФ за прыватную ўласнасьць, за перадачу зямлі тым, хто будзе яе апрацоўваць, за стварэньне сваёй фінансава-крэдытнай сыстэмы. Я пытаю, ці гэтага мала, каб кожны грамадзянін нашай краіны стаў заможным?

Што тычыцца культурных рэформаў, то змаганьне за адраджэньне беларускай мовы, культуры, гістарычных традыцый, народных звычаяў - гэта вялікая справа, бо вяртаньне цывілізаванай супольнасьці адной, фактычна страчанай культуры, дадасьць да агульный скарбніцы чалавецтва яшчэ адзін непаўторны колер.

Пра палітычную канцэпцыю спадара Пазьняка скажу так: час прысьпеў, каб на нашай зямлі скончылася панаваньне чужога нашаму народу парадку. Менавіта Пазьняк стаіць на чале таго руху, які змагаецца за прызнаньне Беларусі сапраўдным членам Эўрапэйскай супольнасьці. Мне і многім маім калегам з ТМА-2 такі падыход імпануе.

Падрыхтаваў Г.АСТРОЎСКІ.

## ПАЗЬНЯКА ПАДТРЫМЛІВАЮЦЬ МОЛАДЗЬ І ЛЮДЗІ ДА 40 ГАДОЎ

Кампанія па збору подпісаў аб вылучэньні кандыдатаў у прэзыдэнты Беларусі набліжаецца да экватара. Пра тое, як ідзе збор подпісаў у падтрымку З.Пазьняка, наш карэспандэнт пацікавіўся ў Старшыні Гарадзенскай вабласной Рады БНФ "Адраджэньне" **М.БАЎСЮКА.**

**- Спадар Мікола, відаць, ужо можна гаварыць пра папярэднія вынікі?**

- Справы, дзякуй Богу, ідуць нядрэнна. У Горадні подпісы зьбірае 140 чалавек, па вобласьці - каля 700. Адсюль і вынікі: па стану на 4 траўня ў Горадні зарэгістравана ў выканкамах каля 4 тысяч подпісаў. А ўвогуле па Гарадзеншчыне - ня меней 16 тысячаў. Але асноўная колькасьць сабраных подпісаў яшчэ на руках у зборшчыкаў. Так што гэтыя лічбы намнога большыя.

**- Ці аналізаваліся пэўныя заканамернасьці? Скажам, які працэнт насельніцтва падтрымлівае Пазьняка, што гэта за людзі, раскладка па рэгіёнам...**

- Па вобласьці можна сьцьвярджаць, што ў нашага кандыдата найвышэйшы рэйтынг сярод прэтэндэнтаў - у сярэднім прыблізна 30 працэнтаў. У Горадні гэты паказчык трохі лепшы. У асноўным гэта моладзь і людзі да 40 гадоў. Сярод прыхільнікаў - людзі практычна ўсіх сацыяльных групаў, але большасьць з іх - гэта рабочыя, служачыя, студэнты...

Вельмі няблага йдуць справы ў Лідзе й Шчучыне, дзе зарэгістравана па 2 тысячы подпісаў. Больш за тысячу - у Слоніме, Ашмянах і Смаргоні. Каля тысячы - у Бераставіцы, Сьвіслачы, Карэлічах. Як бачыце, нейкія заканамернасьці тут заўважыць цяжка. Усё залежыць ад арганізаванасьці й адказнасьці тых, хто ўваходзіць у ініцыятыўную групу.

**- Дзякуй за размову й жадаю посьпехаў.**

- Дзякуй. Хачу нагадаць, што калі да каго з гарадзенцаў яшчэ не заходзілі сябры ініцыятыўнай групы, то вы можаце самі паставіць свой подпіс у падтрымку Пазьняка па адрасу: вул.Савецкая,10, пакой N1. Тут кожны дзень нехта дзяжурыць з ранку й да вечара. Не забудзьцеся толькі свой пашпарт.

## ЗАЯВА

Вярхоўны Савет у сваім законе "Аб парадку ўступленьня ў сілу Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь" вырашыў у месячны тэрмін з дня ўступленьня Канстытуцыі ў сілу ўтварыць Канстытуцыйны Суд. У той жа час Вярхоўны Савет не стварыў законнага мэханізму абраньня Канстытуцыйнага Суда й артыкулам 7-м вышэйназванага Закона надаў Вярхоўнаму Савету ў пэрыяд да заступленьня на пасаду прэзыдэнта паўнамоцтвы па Канстытуцыі 1978 года. Але ў старой Канстытуцыі адсутнічаюць паўнамоцтвы Вярхоўнага Савета па выбарах членаў Канстытуцыйнага Суда. У сувязі з гэтым мы, дэпутаты Апазыцыі Народнага Фронту ў Вярхоўным Савеце, заяўляем, што лічым для сябе немагчымым удзельнічаць у выбарах Канстытуцыйнага Суда да выбараў Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь, паколькі датэрміновае абраньне Канстытуцыйнага Суда зьяўляецца парушэньнем заканадаўства.

Мы заклікаем народных дэпутатаў, якія падзяляюць нашу пазыцыю ў гэтым пытаньні, падтрымаць нашы дзеяньні.

**Народныя дэпутаты Рэспублікі Беларусь:**

**С.Папкоў, В.Малашка, Г.Сямдзянава, А.Трусаў, А.Шут, Б.Гюнтар, І.Пырх, В.Какоўка, І.Герасюк, П.Холад, Л.Баршчэўскі, Я.Глушкевіч, В.Голубеў, В.Сапронаў, І.Германчук, С.Антончык, У.Хітрык, А.Барысенка, Н.Салдатава, Л.Дзейка, З.Пазьняк, Я.Цумараў, Л.Зданевіч, Г.Грушавы, Ю.Беленькі, А.Волкаў, І.Сямашка, А.Лукашоў, І.Маісееў, А.Лябедзька, М.Крыжаноўскі, У.Грыбанаў, М.Аксаміт, Я.Новікаў, М.Маркевіч, А.Паруль, Л.Сечка, С.Бярдаўцаў, В.Аламліеў, А.Спіглазаў.**

## АПАЗЫЦЫЯ ЗА ПРЫЦЯГНЕНЬНЕ ПРЭМ'ЕРА ДА КРЫМІНАЛЬНАЙ АДКАЗНАСЬЦІ

Група дэпутатаў ад апазыцыі накіравала зварот на імя Старшыні ВС РБ М.Грыба й Генпракурора Беларусі В.Шаладонава з патрабаваньнем даць прававую ацэнку дакумэнтам, падпісаным прэм'ерам В.Кебічам 12 красавіка ў Маскве. На іх думку, спадар Кебіч парушыў чатыры артыкулы Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і павінен быць прыцягнуты да адказнасьці па артыкулу 61 Крымінальнага Кодэксу (дзяржаўная здрада). Лідар БНФ З.Пазьняк на прэс-канфэрэнцыі, што адбылася 15 красавіка, назваў унікальнай у навейшай гісторыі сытуацыю, калі ўрад сам здае суверэнітэт сваёй краіны шляхам парушэньня яе Асноўнага закона. На думку Пазьняка, далейшая дзейнасьць у гэтым напрамку прывядзе да пачатку нацыянальна-вызваленчай барацьбы за незалежнасьць Беларусі.

У гутарцы са Старшынёй камісіі ВС РБ па заканадаўству Д.Булахавым карэспандэнт СІМ Мас-мэдыя цэнтра папрасіў яго выказаць думку па гэтаму пытаньню. Адпаведнасьць падпісанага 12 красавіка пагадненьня Асноўнаму закону Булахаў ацаніў двумя словамі:"Вельмі цяжка."

На думку экспэртаў СІМ у вобласьці юрыспрудэнцыі, Кебіч, бясспрэчна, парушыў Канстытуцыю ў частцы артыкула 145, якая рэгламэнтуе правы Нацбанка Беларусі. Гэта аўтаматычна пацягнула за сабой парушэньне артыкула 8 Асноўнага закона:"Не дазваляецца заключэньне міжнародных дагавораў, якія супярэчаць Канстытуцыі". Прэм'ер фактычна прызнаў сваю віну, публічна заявіўшы аб неабходнасьці зьмяненьня Канстытуцыі. Дэпутатам ад апазыцыі ён сказаў, што, падпісваючы пагадненьне, ня ведаў аб існаваньні артыкула 8 Асноўнага закона. Як стала вядома, Генпракурор рэспублікі В.Шаладонаў не знайшоў у дзеяньнях Кебіча складу злачынства й адмовіў на ўзбуджэньні крымінальнай справы, што ні для каго не стала нечаканасьцю.

СІМ

## БАРАЦЬБУ ТРЭБА ВЕСЬЦІ СУМЛЕННА

Як паведаміў член ініцыятыўнай групы па збору подпісаў у падтрымку З.Пазьняка М.Белакоз, 25 красавіка, калі ён зьбіраў подпісы па адрасу: Горадня, вул. Даватара, 27, пачуў ад людзей, што крыху раней да іх заходзілі члены ініцыятыўнай групы сакратара ЦК ПКБ В.Новікава й казалі, што калі яны паставяць подпіс у падтрымку іх вылучэнца, то нельга падпісваць за іншага кандыдата на пасаду Прэзыдэнта Беларусі. Гэта не адпавядае рэчаіснасьці, бо Закон "Аб выбарах Прэзыдэнта Беларусі" дазваляе выказваць падтрымку як аднаму вылучэнцу, так і ўсім адразу. Таму М.Белакоз зьвярнуўся са скаргай у гарадзкую выбарчую камісію.

Д.А.

Подпісы, і даволі актыўна, зьбіраюць за Пазьняка, Шушкевіча, Лукашэнку, за Дубко... Але вось за Кебіча, прабачце, ніводнага зборшчыка ніхто ўвогуле ня бачыў. Можа, нашыя вядучыя справаводы ў Саўміне зьбіліся з ліку й панапісвалі не там дзе трэба нулёў? Гэта цалкам магчыма, бо там і не такія пралікі робяць!

В.В.

## НАС ІНФАРМУЕ «ОСТАНКИНО»

Напачатку тыдня расейскае тэлебачаньне "Останкино" перадало ў навінах сюжэт з Беларусі, дзе гаварылася аб тым, што прэтэндэнт у кандыдаты на прэзыдэнта Беларусі Кебіч ужо сабраў у сваю падтрымку 150 тысяч подпісаў. Больш чым дзіўная навіна.

## ДРУК ЁСЬЦЬ, А ЗАКОНА — НЯМА

5 траўня ў Менску завяршыла працу міжнародная канфэрэнцыя "Закон аб друку ва ўмовах станаўленьня дэмакратыі", якую арганізаваў Мас-мэдыя цэнтр сумесна з Фондам Сораса - Беларусь. У ёй прынялі ўдзел супрацоўнікі найбольш уплывовых сродкаў масавай інфармацыі Беларусі, прадстаўнікі ўраду й Вярхоўнага Савету. Сярод гасьцей - журналісты й палітыкі з Украіны, Расеі, ЗША, Нямеччыны, Латвіі й Польшчы.

Тры дні ўдзельнікі канфэрэнцыі абмяркоўвалі стан сродкаў масавай інфармацыі ў рэспубліцы, аналізавалі ступень яе свабоды й незалежнасьці. Было адзначана, што немагчыма прызнаць нармальнай сытуацыю, калі ў сваёй дзейнасьці газэты кіруюцца не Законам аб друку, якога папросту няма, а ўказаньнямі высокапастаўленых чыноўнікаў.

## ЛІДЧАНЕ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

З 12 па 18 траўня ў Лідзе пройдзе сход ураджэнцаў Лідчыны, якія жывуць за межамі Беларусі. Чакаецца больш за 200 гасьцей. Найбольш - з Канады, Злучаных Штатаў, Польшчы, Англіі, Аўстраліі, Ізраіля. Прысутным будзе прапанавана разнастайная культурная й дзелавая праграма. Падчас сходу адчыніцца выстава мастакоў, будуць праводзіцца сустрэчы па інтарэсах, канцэрты. Завершыцца сяброўская сустрэча вогнішчам над бацькай-Нёманам.

Сярод арганізатараў сходу - Таварыства беларускай мовы, польская й жыдоўская суполкі, гарвыканкам. Адным з фундатараў зьяўляецца культурна-асьветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

*Зянон ПАЗЬНЯК*

# БУДЗЕ НЕЗАЛЕЖНАЯ ДЗЯРЖАВА — БУДЗЕ БУДУЧЫНЯ

## ВЫСТУП, ЯКІ НЕ АДБЫЎСЯ НА 200-Х УГОДКАХ ПАЎСТАНЬНЯ КАСЬЦЮШКІ

Глыбокапаважаныя спадарыні й спадары!

Споўнілася 200 гадоў ад пачатку вызвольнага змаганьня ў Беларусі й Польшчы пад кіраўніцтвам Андрэя Тадэвуша Касьцюшкі, Тамаша Ваўжэцкага й Якуба Коласа.

Змаганьне Касьцюшкі падвяло рысу пад стагоддзямі перманентнай вайны Беларусі з імпэрскай Маскоўшчынай. Час, калі Беларусь была ад мора да мора й, змагаючыся з Захадам, жалезнай рукою трымала Усход - мінуў. Нямеччына й Маскоўшчына аб'ядналіся й праглынулі Беларусь і Польшчу. Канфэдэрацыя - неўстойлівае ўтварэньне й ніколі не была выгадная для краінаў, што яе стварылі. Рэч Паспалітая скончылася. З 1794 года пачалася эпоха нацыянальна-вызваленчых рухаў і незалежных дзяржаваў. Пачалася барацьба за вызваленьне Беларусі.

Мінула пяць пакаленьняў, прагрымела пяць паўстаньняў. Утварыліся незалежная Беларусь і незалежная Польшча. Дзевяць месяцаў праіснавала без арміі Беларуская Народная Рэспубліка. У сьнежні 1918 года яна была акупаваная рускімі бальшавікамі. Настала доўгая чырвоная ноч камуністычнага тэрору й вынішчэньня беларускай нацыі. І толькі ў жніўні 1991 года над Беларусьсю затрымцела сьвітаньне. Незалежнасьці Бацькаўшчыны дамогся Беларускі Народны Фронт. Аднак грамадзтва аказалася непадрыхтаваным перамяніць злачынную акупацыйную ўладу. Таму цемра існуе, акупацыя працягваецца.

Сытуацыя ў 1994 годзе падобная, як у 1794, калі разрывалі й захоплівалі Рэч Паспалітую. Цяпер разрываюць і захопліваюць Беларусь тыя ж пачварныя сілы.

Розьніца толькі ў тым, што ў часы Касьцюшкі на Беларусі былі яшчэ вольныя людзі, якія паўставалі за незалежнасьць і свабоду Бацькаўшчыны, кажучы:"Ня будзе маскаль пляваць нам у твар". Цяпер жа ён плюе свабодна й вольна, "по-русски" з цынічным рогатам і ёрніцтвам. Беларусы нават не выціраюцца. "Подлое, ничтожное, рабское время".

Будучыня Беларусі будзе залежыць ад таго, як яна перажыве й ці перажыве гэтую рабскую пару духоўнага суіцыду й сацыяльнага халуйства. Сон розуму нараджае пачвараў. З палітычнага сьмецьця нацыянальнай здрады вылазяць страшыдлы, якія вянчаюць, як трэба існаваць і прадавацца, якія аплёўваюць сьвятое, не сустракаючы супраціўленьня ў подлай згодзе і ў подлым маўчаньні. Пачвары, ненавідзячыя нацыю, робяцца аўтарытэтамі, дастаткова ім толькі нешта ўсім паабяцаць. Гэта расплата грамадзтва за бездухоўнасьць, за адмаўленьне ад нацыянальных каштоўнасьцяў, ад розуму, ад свабоды. Такім грамадзтвам кіруюць паганыя людзі, злодзеі, ашуканцы, дурні, крымінальнікі й бандыты. Раба можна ашукваць вечна. І вечна будзе раб трымацца за сваё рабства.

Ідзе барацьба. Барацьба за незалежнасьць і барацьба за свабоду ўнутры нас. Але ў гэтай барацьбе ёсьць адна адзіная найвялікшая каштоўнасьць, якая мае вечны непераходзячы сэнс, якая павінна аб'яднаць усіх, - гэта наша Бацькаўшчына, наша дзяржава, наша незалежнасьць. І кожны беларус, кожны вольны чалавек павінен мацаваць яе й бараніць. Будзе незалежная наша дзяржава - будзе будучыня, будзе ўсё.

Мы павінны ведаць гэтак жа, як Касьцюшка, Агінскі, Каліноўскі:Маскоўская імпэрыя, пакуль яна існуе, у якую б адзежу яна не ўбіралася, - была, ёсьць і будзе ворагам нашай беларускай незалежнасьці й нашай свабоды. З гэтай і толькі з гэтай бясспрэчнай ісьціны трэба зыходзіць, будуючы нашы рэальныя дачыненьні з Усходам.

Другую бясспрэчную ісьціну трэба ўсьвядоміць як аксіёму, у каго захавалася яшчэ хоць трохі розуму: Расея ёсьць такая дзяржава, якая ніколі не была й ня будзе дэмакратычнай краінай. У яе іншая прырода, іншая гісторыя й іншая - неэўрапэйская будучыня. У цяперашняй Расеі адсутнічае дэмакратыя як палітычны сьветапогляд і дзяржаўная палітыка. Там няма нават дэмакратычнай апазыцыі існуючаму рэжыму. Палітычная апазыцыя ў Расеі - чырвона-карычневая. Будучыня ў такой дзяржавы, якая да таго ж перажывае развал і сацыяльна-эканамічны крызіс, можа быць толькі таталітарнай, разбуральнай і небясьпечнай для цывілізаванага сьвету. Для мяне зразумела, што захоп Беларусі, які падрыхтоўваецца й ажыцьцяўляецца зараз камуністычнымі і імпэрскімі коламі ў Расеі й на Беларусі, стане першым крокам да вялікай глабальнай вайны. Мы можам пачуць пра гэта скора, калі толькі цені Касьцюшкі не дапамогуць пазьбегнуць бяды.

Мне ўспамінаецца апавяданьне аднаго паплечніка па Гулагу нашай вялікай непараўнальнай Ларысы Геніюш. Камуністы прыгналі ў лягер некалькі вялікіх этапаў з усяго сьвету й заперлі ў вялізны барак каля тысячы чалавек. Назаўтра, калі прынесьлі гэтаму галоднаму натоўпу хлеб, адчыняюцца дзьверы й заходзяць трох крымінальнікаў з нажамі. Адбіраюць хлеб і зьнікаюць. І так было рэгулярна амаль тыдзень. Трое "уркаў" тэрарызавалі тысячны неарганізаваны натоўп, які баяўся, галадаў і цярпеў.

Але знайшлося ў гэтай рабскай чарадзе трох вольных людзей - трох эстонцаў. Яны згаварыліся й схапілі крымінальнікаў, бароняча агульны хлеб. Вось тады на злодзеяў кінуўся ўвесь барак. Іх разарвалі на часткі й выкінулі праз вокны.

У Касьцюшкі было трыццаць тысячаў свабодных людзей і зброя, якую яны ўмелі й трымаць. Цяпер, праз 200 гадоў, у гэтым камуністычным бараку, кіруемым крымінальнікамі, ці знойдзецца хоць тры вольныя душы?

Спадары! Для выратаваньня Бацькаўшчыны патрабуецца няшмат. Хаця б трох свабодных людзей. Ахвяруйцеся, хто свабодны, калі свабодныя яшчэ існуюць і калі вам дарагая ваша свабода.

# ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ

## УПРАВЫ СОЙМУ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ

Падпісаньне Старшынёй Савета Міністраў Беларусі В.Кебічам 12 красавіка ў Маскве Пагадненьня аб аб'яднаньні грашовай сыстэмы Беларусі й Расейскай Фэдэрацыі раўназначна ліквідацыі Нацыянальнага банка, рэспубліканскага бюджэта й эканамічнай самастойнасьці краіны, зьяўляецца грубым парушэньнем арт. NN 1,8, 141 і 145 нядаўна прынятай Канстытуцыі. Гэта адначасна - чарговае ігнараваньне закона, непрыняцьце думкі прафэсійных эканамістаў і пратэстаў грамадзкасьці.

Абавязак Пракуратуры й Вярхоўнага Савета - даць адпаведную ацэнку дзеяньням сп. Кебіча й яго ўраду. Афіцыйныя тлумачэньні, быццам аб'яднаньне грашовых сыстэмаў паспрыяе выхаду з глыбокага эканамічнага крызысу, пазбаўленыя здаровага сэнсу. Нас імкнуцца "аб'яднаць" з эканамічнай сыстэмай краіны, перад якой стаяць яшчэ больш складаныя праблемы, чым у Беларусі.

Нас чакае зьніжэньне канкурэнтнай здольнасьці беларускіх тавараў, спыненьне вытворчасьці, дэфіцыт грашовай масы, затрымка выплаты заработнай платы й іншыя сацыяльна-эканамічныя цяжкасьці. Але ў адрозьненьні ад Расеі ўрад Беларусі фактычна не пачынаў эканамічных рэформаў. Таму рэальным вынікам такога "аб'яднаньня" будзе скупка дзяржаўнай маёмасьці Беларусі новымі расейскімі капіталістамі. Беларускі народ пастаўлены перад пагрозай страты сваёй уласнасьці й дзяржаўнай незалежнасьці.

Сапраўднымі матывамі дзеяньняў сп.Кебіча зьяўляецца імкненьне пазьбегнуць адказнасьці за разбурэньне гаспадаркі й эканомікі краіны, за рост карупцыі й злачыннасьці, зьбядненьне нашага насельніцтва. Дзеля гэтага й робяцца спробы ліквідаваць суб'ект права - беларускую дзяржаву, якая можа прад'явіць урадавым колам справядлівы рахунак за бездапаможнасьць і карысьлівасьць іх палітыкі. Пры гэтым Старшыня Савета Міністраў спрабуе яшчэ забясьпечыць сабе перамогу на прэзыдэнцкіх выбарах, выкарыстоўваючы падман і танны папулізм. Гонар кожнага сумленнага грамадзяніна Беларусі, які адчувае адказнасьць за лёс сваёй краіны, сваіх нашчадкаў, - спыніць гэтую здрадніцкую палітыку. Ні адна службовая асоба, вінаватая ў злачынстве, якое пагражае будучыні Беларусі, не павінна пазьбегнуць справядлівага пакараньня.

Жыве Беларусь!

# «ЗАЛАТАЯ ДЗЕСЯТКА»: ГАРАДЗЕНСКІ ВАРЫЯНТ

Ужо сёньня зразумела, што выбары ў Вярхоўны Савет у сакавіку не адбыліся й хутчэй за ўсё не адбудуцца і ў лістападзе, як прапаноўвала камісія Вярхоўнага Савета па дзяржаўнаму будаўніцтву. Але гэта ў першую чаргу будзе залежыць ад таго, хто стане першым прэзыдэнтам Беларусі. Калі Кебіч ці Грыб, то парлямэнт, магчыма, й прызначыць выбары народных дэпутатаў у лістападзе. Калі ж прэзыдэнт будзе з боку дэмакратаў, то Вярхоўны Савет сыйдзе з палітычнай сцэны роўна праз 5 год свайго існаваньня.

Нягледзячы на гэтую нявызначанасьць, "Пагоня" ўсё ж вырашыла "зазірнуць" наперад, каб палічыць шанцы на будучых выбарах палітычных дзеячоў Гарадзеншчыны.

З гэтай мэтай дзесяці экспэртам было прапанавана назваць на іх погляд "дзесятку" самых уплывовых палітычных дзеячоў вобласьці, улічваючы, вядома ж, іх удзел у будучых выбарах, іх шанцы на перамогу й магчымасьць істотна ўзьдзейнічаць на ход грамадзка-палітычнага жыцьця ў рэгіёне.

Як патрабуецца, экспэрты не зьяўляюцца членамі палітычных партый і рухаў, і таму іх адзнакі здаюцца рэдакцыі непрадузятымі.

Па роду дзейнасьці сярод іх ёсьць і журналісты, і служачыя выканкамаў, прадстаўнікі прафсаюзаў і дзяржаўных установаў. Усе рэспандэнты - людзі вопытныя ў гэтай галіне грамадзкага жыцьця й ведаюць многіх "падапечных" ня толькі з друку.

Згодна з існуючай мэтодыкай, за першае месца палітыку налічвалася 10 балаў, за другое - 9, за трэцяе - 8 і г.д. Потым атрыманая сума была падзеленая на колькасьць апытаных і ў выніку - асабісты рэйтынг.

Усяго экспэртамі было названа 28 чалавек - як бачым, роскід думак шырокі, але ўсё ж "ядро" было адзначана імі даволі "аднадушна".

Калі ласка, "залатая дзесятка" па вэрсіі газэты "Пагоня":

1.С.Домаш, старшыня вабласнога Савета - 9,4.

2.А.Мілінкевіч, намесьнік старшыні Гарадзенскага гарадзкога Савета - 7,2.

3.Т.Гавін, старшыня Саюза палякаў Беларусі - 3,4.

4.М.Патрэба, старэйшы выкладчык Гарадзенскага унівэрсітэта, старшыня гарадзкой філіі БСДГ - 3,3.

5.М.Маркевіч, старшыня культурна-асьветніцкага фонда "Бацькаўшчына" - 3,3.

6.У.Малец, старшыня Лідзкага гарадзкога Савета - 3,3.

7.С.Посахаў, пэнсіянэр-вайсковец, старшыня вабласнога каардынацыйнага камітэта народнага Руху Беларусі -2,9.

8.А.Дубко, старшыня аграфірмы "Прагрэс" - 2,9.

9.А.Пашкевіч, намесьнік старшыні аблвыканкама - 2,9.

10.К.Жынь, начальнік аддзела "Гроднаэнэрга", старшыня філіі гарадзкой Рады БНФ - 2,3.

Цікава, што кіраўніка вабласной прадстаўнічай і выканаўчай улады назвалі ўсе 10 экспэртаў, у тым ліку ён атрымаў 7 першых і два другіх месцы. Прозьвішча "сярэбранага" прызёра А.Мілінкевіча называлася 9 разоў, у тым ліку двойчы яго паставілі на чале сьпіса, тройчы - другім і раз - трэцім.

На сёньняшні дзень яны зьяўляюцца безумоўнымі лідэрамі, бо прыкметна "адарваліся" ад рэгіянальнага палітычнага пэлетона. Наступнага прэтэндэнта, Т.Гавіна, у "Залатую дзесятку" ўключылі 7 рэспандэнтаў, чацьвёртага, М.Патрэбу, назвалі 8 апытаных, у тым ліку на яго рахунку ёсьць і адна "бронза".

Магчыма, чытачы запытаюць, чаму некаторыя асобы, маючы аднолькавы рэйтынг, разьмешчаны вышэй за іншых. Гэтыя абставіны тлумачацца больш частым упамінаньнем гэтых прозьвішчаў пры апытаньні. Калі, напрыклад, У.Мальца ўключылі ў сьпіс 6 разоў, А.Дубко і А.Пашкевіча - па чатыры, то М.Маркевіча - 7, а С.Посахава - 8 разоў.

Зразумела усё ж, што ня колькасьць "мэдалёў", а большасьць адданых галасоў маюць прыярытэтнае значэньне.

Відаць, ёсьць сэнс правесьці рэйтынг палітыкаў, прозьвішчы якіх упаміналіся больш двух разоў, але яны засталіся па-за межамі "дзесяткі". Гэта У.Сямёнаў /32,1/, былы першы сакратар абкама КПБ, а зараз адзін з заснавальнікаў будаўнічай фірмы й сустаршыня палітвыканкама ПКБ; А.Янец /1,9/, старшыня Смаргонскага райсавета, А.Пяткевіч /1,8/, загадчык кафэдры Гарадзенскага унівэрсітэта; В.Задаля /1,5/, намесьнік старшыні Гарадзенскага вабласнога тэлерадыёаб'яднаньня; Г.Крупенка /1,4/, старшыня Гарадзенскага гарадзкога Савета.

Таксама заслугоўваюць увагі й прозьвішчы тых, хто быў названы толькі адзін раз. Гэта Г.Сямдзянава (Наваградак), В.Чорны (Слонім), В.Кобрын, І.Філімонцаў, М.Гіруць (Горадня), А.Белакоз (Масты), В.Кудравец, Я.Жабрун, А.Майсяёнак, Я.Кармільчык, С.Соркін (Горадня).

Аналізуючы сацыяльнае становішча й удзел у грамадзка-палітычным жыцьці, бачна, што на першым месцы па колькасьці названых прэтэндэнтаў прадстаўнікі партый і рухаў - 5, на трэцім - вучоныя - 4. Вельмі мала названа кіраўнікоў-прамыслоўцаў, эканамістаў, журналістаў, дзеячоў культуры, прафсаюзных лідэраў. Няма ў сьпісе ніводнага прадпрымальніка і ўсяго адна жанчына (Г.Сямдзянава).

Па жыцьцёваму вопыту 2 чалавекі ва ўзросьце да 40 гадоў, 17 - ад 40 да 55 і 9 - старэй за 55 год.

Калі ўмоўна падзяліць усіх на левых, правых і цэнтрыстаў, то 12 чалавек можна аднесьці да дэмакратаў, 6 - да прыхільнікаў камуністычнай ідэі, а астатніх 10 - да цэнтра - партыі ўлады, бо яны не жадаюць пакуль выказваць сваіх палітычных поглядаў - хочуць быць "наверсе" заўсёды. У выніку ж памылкі й стаўкі не на тую палітычную сілу, можна разьвітацца й з утульным месцам.

Вядома ж, заўсёды знойдуцца скэптыкі, якія не прапусьцяць магчымасьць "ушчыпнуць" "Пагоню", якая, на іх погляд, "падагнала" вынікі апытаньня "пад сваіх" - у выгадным сьвеце паказала дэмакратаў.

Але ж ці так гэта? Паглядзіце яшчэ раз на сьпіс. Мяркуецца, што дакладны адказ на гэта можна атрымаць толькі праз год, а магчыма ўжо і ў лістападзе.

А зараз запрашаем чытачоў прыняць удзел у другім туры апытаньня - вызначыць самім "залатую дзесятку". Калі ласка, назавіце свой варыянт, які можаце даслаць з паметкай "залатая дзесятка" на адрас "Пагоні" да 1 чэрвеня 1994 года. Чакаем!

**І.ПРЫВАРОЦКІ**

ЭКАНОМІКА

# Лешэк БАЛЬЦАРОВІЧ: «ШЛЯХ ДА ПОСЬПЕХУ — РАДЫКАЛЬНЫЯ РЭФОРМЫ»

**У Беларускім культурна-адукацыйным цэнтры (г.Менск) адбыўся беларуска-польскі навукова-практычны сэмінар "Шляхі выхаду з эканамічнага крызысу дзяржаў Усходняй і Цэнтральнай Эўропы."**

**Найбольшы інтарэс удзельнікаў сэмінара выклікала прысутнасьць "бацькі" вельмі ўдалай польскай эканамічнай рэформы Лешэка Бальцаровіча.**

Па словах пана Бальцаровіча, посьпех перахода да новай эканамічнай сыстэмы залежыць як ад першапачатковых умоваў (якія цяжкія для ўсіх сацыялістычных краін), так і (значна ў большай ступені) ад эканамічнай палітыкі, якая праводзіцца.

Якія першапачатковыя фактары істотныя для працэсу рэформаў? Гэта макраэканамічная сытуацыя ў краіне - узровень інфляцыі (якая ў пачатку польскай рэформы складала 40-50 % у месяц - як сёньня на Беларусі), і ступень недахопу тавараў на рынку. Гэта ўзровень адукаванасьці насельніцтва, які ў "сьвеце сацыялізма" даволі высокі (у адрозьненьні ад нашых патэнцыяльных канкурэнтаў - краін Азіі і Афрыкі).

Але не хапае спэцыялістаў рыначнай кваліфікацыі - неабходны ўмовы й стымулы. І самае галоўнае - тып эканамічнай сыстэмы, што зараз існуе, які ў былым сацлягэры прыкладна аднолькавы і характарызуецца адсутнасьцю зьнішчанага бальшавіцкім запалам капітала й рыначных інстытутаў (мэтады кіраваньня, бірж, банкаўскай сыстэмы й г.д.).

Як ні парадаксальна, але разбураная вайной Гэрманія 1947 года знаходзілася ў лепшых стартавых умовах, чым краіны сацыялізму на парозе 1990-га года. Гітлер жа толькі прыпыніў капіталізм, але ня зьнішчыў, і славутая рэформа Людвіга Эрхарда абапіралася на рыначныя інстытуты, што існуюць, чым у немалой ступені тлумачыцца яе посьпех.

Для нас жа стартавай умовай стала рэфармаваная сацыялістычная эканоміка з высокім узроўнем прамысловасьці, вельмі нізкім - паслуг і вялікай колькасьцю прадпрыемстваў, якія могуць існаваць толькі ва ўмовах сацыялізму: нерэнтабельных, стратных, чыя канчатковая прадукцыя не даражэй выкарыстанай сыравіны. Работа такіх прадпрыемстваў толькі зьнішчае дзяржаўны прыбытак, а таму іх закрыцьцё стане аблёгкай для эканомікі дзяржбюджэта, але адначасова створыць праблему беспрацоўя. Яшчэ адной негатыўнай умовай зьяўляецца псыхіка "гома савэтыкуса", які прывык да безініцыятыўнасьці, спажывальніцтва й чакае клопату з боку дзяржавы. Аднак, на думку Л.Бальцаровіча, гэтая праблема можа быць пераадолена й не павінна стаць вялікім стартавым бар'ерам.

Стартавыя ўмовы ў Рэспубліцы Беларусь цяжкія, але не цяжэй, чым у іншых краінах, і ніяк ня могуць лічыцца асноўнай прычынай эканамічных няўдач. На ўсёй постсацыялістычнай прасторы былі разарваныя наладжаныя адміністрацыйнай сыстэмай сувязі й страчаны звыклыя рынкі збыту, вырасьлі цэны на энэрганосьбіты. Так, яшчэ ў 1991 годзе Польшча й Чэхаславакія былі вымушаныя разьлічыцца за нафту па міравых цэнах і ў далярах. Невялікія краіны ня могуць зьмяніць умовы свайго існаваньня, але ў стане да іх прыстасавацца, як да дрэннага надвор'я. Уласная эканамічная палітыка - вось адзіны фактар, з дапамогай якога краіна можа мяняць сваю будучыню.

Пасьля трох гадоў рэформ (дарэчы, рэформы ў Польшчы пачаліся ўсяго на сем месяцаў раней, чым на Беларусі) эканамічныя посьпехі Польшчы ці Эстоніі непараўнальныя з беларускім ці ўкраінскім крызысам. У чым жа прычына посьпехаў адных і няўдачы другіх? На думку Л.Бальцаровіча, прынцыповым зьяўляецца выбар варыянта рэфармаваньня. Неабходна хуткая радыкальная рэформа, пры якой ствараецца ўсё больш працоўных месцаў і кожнае з іх дае большы эфэкт. Усе краіны праходзяць цяжкі пэрыяд непаладак, але там, дзе рэформы радыкальныя, складанасьцяў менш і большы посьпех. Асновы эфэктыўнай рэформы - жорсткая фінансавая палітыка на падставе моцнай стабільнай канвэртаванай валюты. Уласная валюта - фундамэнт, без якога немагчыма будаўніцтва эканомікі.

Патрэбна свабода прадпрыемстваў з рознымі тыпамі ўласнасьці й канкрэтнае асяроддзе, без якога ўласнасьць ня будзе працаваць. Эканоміка хуткага разьвіцьця павінна мець гібкі рынак працы, дзе прадукцыйнасьць расьце хутчэй, чым заробак. Невялікія падаткі, якія стымулююць разьвіцьцё вытворчасьці, павінны спалучацца са сьціплымі бюджэтнымі выдаткамі, хутка разьвіваючыміся імпартам і экспартам, вольным ад ліцэньзіі й падаткаў, а каб пры гэтым нацыянальныя багацьці краіны не вывозіліся па дзяшоўцы, патрэбна лібэралізацыя цэн. На думку польскага эканаміста, кантроль над цэнамі ліквідуе толькі сымптомы інфляцыі, але не яе прычыны, ствarae таварны дэфіцыт і чэргі, пераводзіць інфляцыю ў схаваную форму (якая дзесяцігоддзямі квітнела ў час "разьвітога сацыялізму").

Эканоміка лічыцца дэстабілізаванай, калі цэны павялічваюцца больш, чым на 10% у месяц. У Беларусі гэты рост - 30-40% , што азначае крайнюю дэстабілізацыю. Калі сваечасова ня будуць прынятыя меры й ня ўдасца дасягнуць посьпеху, нас чакае няўпэўненасьць, неразьбяруха. Каб выйсьці з замкнутага кола, пры якім "уцёкі" насельніцтва ад грошай правакуюць недахоп тавараў, новы рост цэнаў і новы віток інфляцыі, неабходны дзейныя меры: зьніжэньне тэмпаў росту грашовай масы, спыненьне крэдытаваньня неэфэктыўных прадпрыемстваў і кантроль за заробкам, які не павінен расьці хутчэй за прадукцыйнасьць працы.

Неабходна стварэньне стабільнай валюты, якая дасьць упэўненасьць, што спыніць рост цэнаў. У Польшчы - гэта стабільны курс злотага да даляра й кантроль над заработнай платай. Такі кантроль неабходны на пачатковай стадыі рэформаў. Паступова ён павінен быць ліквідаваны, але не адміністрацыйнымі мерамі, а шляхам прыватызацыі, павелічэньня эфэктыўнасьці вытворчасьці, калі зарплата будзе забясьпечана продажам канкурэнтнай прадукцыі, а не друкаваньнем "пустых" паперак.

Адна з найбольш важных задачаў эканамічнай рэформы - стварэньне магутнай банкаўскай сыстэмы і інстытутаў упраўленьня эканомікай. Па словах польскага эканаміста, неабходна "ліквідаваць інтэрвэнцыю дзяржавы ў эканоміку", бо яна нараджае безгаспадарчасьць і неэфэктыўнасьць. Безумоўна, што ўмяшаньне дзяржавы ў эканоміку нараджае таксама й карупцыю. Калі надта шмат залежыць ад чыноўнікаў, то паўстае спакуса нават для высокамаральных людзей, да таго ж, вытворцы не павінны марнаваць час на ўгаворваньне чыноўнага люду, а дзяржава - на дробную апеку гаспадарнікаў, замест таго каб займацца глабальнай стратэгіяй рэфармаваньня.

Адной з найбольш вострых праблемаў зьяўляецца беспрацоўе, якое існуе ў Польшчы. (Афіцыйны ўзровень - 15% працаздольнага насельніцтва, рэальна яна ўдвая ніжэй, бо амаль палова беспрацоўных працуе ў так званай "другой" эканоміцы.) Адкрытае беспрацоўе - адкрытая праблема, яе вырашэньне - хуткае разьвіцьцё прыватнага прадпрыймальніцтва, якое стварае працоўныя месцы. На думку Л.Бальцаровіча, небясьпечней для грамадства схаванае беспрацоўе, якое, ствараючы бачнасьць дабрабыту, пазбаўляе людзей стымулу да працы, пошуку новых працоўных месцаў і перакваліфікацыі, павялічваючы дэмаралізацыю й апатыю грамадства.

– Эканоміка павінна быць адкрыта ўсяму сьвету, - сказаў у канцы Л.Бальцаровіч, - каб мы вучыліся на вопыце й, нават, памылках іншых. У постсацыялістычным сьвеце назапашаны багаты вопыт рэфармаваньня, таму, калі дзяржава абірае ня лепшую мадэль рэформы, гэта нельга апраўдаць няведаньнем.

Л.Бальцаровіч упэўнены, што рэформа павінна быць радыкальнай і для яе правядзеньня неабходныя кампэтэнтнасьць і палітычная воля.

**Т.ПАЛЯКОВА.**



## ЯК У СТАРЫЯ ДОБРЫЯ ЧАСЫ

Нядаўна адзін гарадзенец набыў фурманку, якую плянуе з цягам часу ператварыць у дыліжанс. Невядома, колькі часу спатрэбіцца на гэта гарадзенскаму вынаходніку, але ў прыватнай гутарцы ён адзначыў: "На таксі – дорага, у тралейбусе – тлумна, а на дыліжаньсе – шыкоўна."

**С.УЛАДЗІСЛАВОВІЧ.**

## ЭКСКУРСІЯ ПА СЬМЕТНІКАХ

Люблю, пражыўшы ў Горадні амаль усё жыцьцё, хадзіць завулкамі й прахаднымі дварамі. Часам, калі праходжу той ці іншай сьцежкай, то бачу, што проста на вуліцах, на дварах параскідана шмат сьмецьця. Сярод гэтага бруду позірк выхоплівае нямала шкодных рэчываў, якія павінны абавязкова пасьля скарыстаньня быць зьнішчанымі. На жаль, гэтага ніхто ня робіць. А побач з гэтым небясьпечным брудам - пабітымі тэрмомэтрамі, нескарыстанымі лекамі ды іншым - гуляюць дзеці. Мы многае згадваем пра экалёгію. Але экалёгія павінна распачынацца з нас саміх.

**В.СЕГІНЬ, 76 год, Горадня.**

## ДА БЯДЫ НЕДАЛЁКА

Больш за некалькі год ляжаць бліз вёскі Зарыца зваленыя ў былым цэху КБМ па перапрацоўцы пяску мінэральныя ўгнаеньні.

Калісьці завезьлі іх сюды работнікі вучгаса "Прынёманскі", але скарыстаць не сьпяшалі.

Зараз угнаеньні ляжаць бяз попыту. Праўда, час ад часу да іх наведваюцца дачнікі, каб заграбсьці сабе на лецішча вядро-другое мінэральных тукаў.

Побач будуецца пасёлак "Зарыца". Некаторыя дамы знаходзяцца ад гэтых залежаў у некалькіх мэтрах. Калі з гэтым небясьпечным суседам пажадаюць пагуляць пасёлкавыя дзеці, то невядома, чым усё скончыцца.

**Г.НАЗІРАЛЬНІК.**

## АДЫШЛІ "ПА–ФІРМОВАМУ"

На адрас кафэдры дзіцячых хвароб ГДМІ прыйшоў ліст ад гарадзенскіх уладаў з допісам, што рашэньнем мясцовага Савету пад экалягічны цэнтр выдзелена памяшканьне па вуліцы Каліноўскага. Аднак, як паведаміла карэспандэнту "Пагоні" прафэсар Л.В.Евец, мэдыкі не адчуваюць сябе задаволенымі, бо раней ў памяшканьні месьціўся офіс нейкай камэрцыйнай фірмы. Фірмачы, адыходзячы з пакояў, так пашчыравалі, што без капітальнага рамонту памяшканьня лекары ня змогуць распачаць працу.

**Г.ДАМІНІКАНСКІ.**

## ЯКАСЬЦЬ АЦАНІЛІ Ў НЯМЕЧЧЫНЕ

Працукцыя Гарадзенскага завода аўтамабільных агрэгатаў вядома ня толькі на Беларусі, але й за яе межамі. У прыватнасьці, дзіцячыя ровэры "Нёман" практычна немагчыма купіць, нягледзячы на даволі высокую цану (каля 80 тысяч рублёў), яны карыстаюцца вялікім попытам сярод насельніцтва. А нядаўна ім быў нададзены сэртыфікат якасьці Нямеччыны.

## «ЗАЙЦЫ» НЕ КАРЫСТАЮЦЦА ПОПЫТАМ

Калі на Беларусі былі ўведзены ў абарачэньне разьліковыя білеты Нацыянальнага банка РБ, рэзка ўпаў попыт на банкноты Дзяржбанка СССР. Камэрцыйныя крамы й прыватныя гандляры, парушаючы закон, перасталі прымаць купюры вартасьцю 1, 3, 5 і 10 рублёў, ня вельмі ахвотна іх бралі і ў дзяржгандлі.

Зараз сытуацыя паўтараецца. Толькі прыватнікі адмаўляюцца браць "вавёрак", "зайцоў" і "баброў". Тое ж можна назіраць і ў некаторых крамах дзяржгандлю, калі сума пры разьліку вялікая. Як паведамілі ў Гарадзенскім гархарчгандлі, указаньняў рабіць гэта не давалі, ды й не маглі даць, бо гэта было б парушэньнем, і ў выпадку, калі ў пакупнікоў узьнікае непаразуменьне з прадаўцамі, параілі зьвяртацца да загадчыкаў крамамі.

**Д.А.**

# ГРАМАДЗТВА

Як ужо паведамлялася, у Горадні адбыўся ўстаноўчы сход па ўтварэньню альтэрнатыўнай вэтэранскай арганізацыі - Беларускага аб'яднаньня вэтэранаў. Пасьля ў яе Раду пачалі зьвяртацца людзі з пытаньнямі, хто і як можа стаць членам арганізацыі, як азнаёміцца з яе Статутам і інш. Па просьбе Рады мы друкуем яго.

## СТАТУТ

### Беларускага аб'яднаньня вэтэранаў Горадні

**1. Беларускае аб'яднаньне вэтэранаў Горадні** зьяўляецца добраахвотнай грамадзкай непалітычнай арганізацыяй і складаецца з вэтэранаў вайны, працы, Узброеных Сілаў, ахвяраў палітычных рэпрэсый. Яно будуецца на прынцыпах раўнапраўя ўсіх сяброў арганізацыі, галоснасьці ў рабоце, дзейнічае ў адпаведнасьці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, Законам "Аб вэтэранах" і гэтага Статута, удзельнічае ў грамадзкім, палітычным, эканамічным і культурным жыцьці рэспублікі, выражае інтарэсы вэтэранаў, якія ставяць перад сабой наступныя мэты:

- змагацца за сапраўдны сувэрэнітэт, палітычную й эканамічную незалежнасьць Рэспублікі Беларусь, аднаўленьне гістарычнай памяці нашага народа, яго мовы й культуры;
- клапаціцца аб сацыяльна-эканамічных і асабістых правах вэтэранаў з мэтай паляпшэньня іх матэрыяльнага становішча, жыльлёвых умоў, мэдыцынскага і іншых відаў абслугоўваньня ўсіх, і асабліва адзінокіх вэтэранаў;
- удзельнічаць у грамадзкім жыцьці рэспублікі, займацца выхаваньнем ў моладзі пачуцьця гонару за свой народ і жаданьня актыўна кшталтаваць лёс Бацькаўшчыны;
- далучаць вэтэранаў да пасільнай працоўнай дзейнасьці, да падтрыманьня ў належным стане помнікаў баявой і працоўнай славы;
- падтрымліваць сувязі з вэтэранскімі арганізацыямі другіх гарадоў і вабласьцей Рэспублікі Беларусь, іншых краін.

**2. Сяброўства ў вэтэранскай арганізацыі**

Сябрамі гарадзкога аб'яднаньня вэтэранаў могуць быць: любы вэтэран вайны й працы, Узброеных Сілаў, аховы грамадзкага парадку, ахвяры палітычных рэпрэсый, якія прызнаюць яе Статут, знаходзяцца на ўліку ў адной з вэтэранскіх арганізацый, прымаюць удзел ў яе рабоце.

Залічэньне ў сябры й выбыцьцё з арганізацыі адбываецца на аснове вуснай заявы вэтэрана. Парадак уліку сяброў арганізацыі вызначаецца першаснай суполкай.

За знаходжаньне ў вэтэранскай арганізацыі складкі не ўстанаўліваюцца, але кожны сябра можа добраахвотна ахвяраваць ёй грашовыя сродкі, якія будуць выкарыстоўвацца на мэты арганізацыі.

**3. Сябры вэтэранскай арганізацыі абавязаны:**

- быць зарэгістраванымі ў вэтэранскай суполцы, прымаць удзел у яе рабоце, па меры сіл і здароўя выконваць атрыманыя даручэньні, прытрымлівацца гэтага Статута;
- займаць актыўную пазыцыю ў барацьбе за палітычную і эканамічную незалежнасьць Рэспублікі Беларусь, у выхаваньні ў маладога пакаленьня пачуцьця павагі й любові да свайго народа, яго культуры й мовы;
- быць прыкладам для іншых у справе выкананьня законаў Рэспублікі Беларусь, нормаў грамадзкай маралі.

**4. Сябры вэтэранскай арганізацыі маюць права:**

- браць удзел ва ўсіх сходках суполкі, мэрапрыемствах і акцыях вэтэранаў;
- выбіраць і быць абранымі ва ўсе ворганы вэтэранскай арганізацыі;
- браць удзел у вызначэньні дзейнасьці вэтэранскай арганізацыі, прапаноўваць зьмены ў Статут, выказваць і абараняць свае думкі;
- атрымліваць падтрымку ад арганізацый у справе абароны сваіх правоў і законных інтарэсаў;
- зьвяртацца з запытаньнямі, заявамі й прапановамі ў ворганы вэтэранскай арганізацыі й атрымліваць абгрунтаваны адказ.

**5. Арганізацыйныя структуры вэтэранскай арганізацыі**

Гарадзенскае гарадзкое Беларускае аб'яднаньне вэтэранаў дзейнічае на тэрыторыі Горадні й будуецца паводле тэрытарыяльна-вытворчага прынцыпа. Асновы гарадзкой вэтэранскай арганізацыі складаюць першасныя арганізацыі (суполкі), якія ствараюцца па месцы жыхарства й працы пры наяўнасьці ня менш трох сяброў і аб'ядноўваюцца ў тэрытарыяльныя арганізацыі.

Вышэйшым ворганам гарадзкога Беларускага аб'яднаньня вэтэранаў зьяўляецца агульны сход ці канфэрэнцыя вэтэранаў. Дэлегаты канфэрэнцыі выбіраюцца на сходах першасных суполак адпаведна ўстаноўленых нормаў прадстаўніцтва. Агульны сход ці канфэрэнцыя лічацца правамоцнымі, калі ў іх рабоце прымае ўдзел больш паловы членаў арганізацыі або абраных дэлегатаў.

Агульны сход ці канфэрэнцыя зьбіраюцца па меры неабходнасьці, але не радзей аднаго разу ў год.

Нечарговы агульны сход ці канфэрэнцыя могуць быць скліканы патрабаваньнем ня менш 1/3 першасных суполак, 1/5 вэтэранаў гарадзкой арганізацыі або па рашэньню Рады.

Агульны сход ці канфэрэнцыя выбіраюць Раду й рэвізыйную камісыю тэрмінам на адзін год, заслухоўваюць іх справаздачы, вырашаюць іншыя пытаньні дзейнасьці вэтэранскай арганізацыі.

**6. Рада гарадзкога Беларускага аб'яднаньня вэтэранаў:**

- справаздачная перад гарадзкім агульным сходам і канфэрэнцыяй;
- каардынуе работу гарадзкой і першасных арганізацый (суполак) вэтэранаў паміж агульнымі сходамі й канфэрэнцыямі;
- арганізуе работу па выкананьню пастаноў агульнага сходу й канфэрэнцыі, склікае й рыхтуе іх правядзеньне;
- распаўсюджвае станоўчы вопыт работы першасных суполак, забясьпечвае паўсядзённы прыём вэтэранаў, рэагуе на іх пісьмовыя й вусныя звароты;
- падтрымлівае сувязі з ворганамі дзяржаўнай улады, грамадзкімі й іншымі арганізацыямі, прадпрыемствамі, установамі з мэтай вырашэньня вэтэранскіх праблемаў;
- сумесна з ворганамі дзяржаўнай улады і іншымі зацікаўленымі арганізацыямі прымае ўдзел у распрацоўцы й выкананьні праграмаў, накіраваных на паляпшэньне ўмоў жыцьця й здароўя вэтэранаў;
- клапоціцца аб прыцягненьні вэтэранаў да пасільнай працоўнай і грамадзкай дзейнасьці, стварае вэтэранскія кааперэтывы й малыя прадпрыемствы;
- садзейнічае стварэньню клюбаў вэтэранаў і аказвае дапамогу ў арганізацыі іх адпачынку;
- прымае меры па выкананьню законаў Рэспублікі Беларусь аб прадстаўленьні ільготаў вэтэранам.

Для арганізацыі й правядзеньня бягучай работы Рада выбірае старшыню, яго намесьнікаў і сакратара.

Рада зьбіраецца па меры неабходнасьці, але не радзей 6 разоў на год.

**7. Першасныя вэтэранскія арганізацыі (суполкі)**

Першасныя суполкі ствараюцца па месцы жыхарства, у працоўных калектывах, навучальных установах, воінскіх падразьдзяленьнях пры наяўнасьці ня меней трох вэтэранаў. Першасныя суполкі самастойна вызначаюць формы й мэтады сваёй дзейнасьці.

Вышэйшым ворганам першаснай суполкі зьяўляецца агульны сход вэтэранаў, які праводзіцца па меры неабходнасьці, але не радзей 1 разу на год. Сход зьяўляецца правамоцным, калі на ім прысутнічае больш паловы сяброў суполкі. Сход выбірае старшыню й сакратара суполкі тэрмінам на адзін год.

Першасная суполка:

- вядзе асабовы ўлік вэтэранаў;
- аказвае неабходную дапамогу вэтэранам у абароне іх законных правоў;
- садзейнічае далучэньню вэтэранаў да пасільнай працы, у тым ліку на каапэратыўнай аснове, разьвіцьцю садоўніцтва й агародніцтва;
- супрацоўнічае з грамадзкімі арганізацыямі, адміністрацыяй прадпрыемстваў і ўстаноў у інтарэсах сацыяльнай абароны вэтэранаў.

**8. Грашовыя сродкі й маёмасьць Беларускага аб'яднаньня вэтэранаў**

Грашовыя сродкі вэтэранскай арганізацыі фармуюцца з добраахвотных складкаў сяброў, іншых грамадзян, грамадзкіх і дзяржаўных устаноў.

Уласнасьць вэтэранскай арганізацыі зьяўляецца агульнай маёмасьцю арганізацыі.

Вэтэранская арганізацыя мае права законным шляхам набываць, адчужаць, браць і аддаваць ў арэнду маёмасьць, неабходную для ажыцьцяўленьня статутных мэтаў.

**9. Прававы статус**

Вэтэранская арганізацыя Горадні валодае правамі юрыдычнай асобы й падлягае ў адпаведнасьці з заканадаўствам рэгістрацыі ў гарвыканкаме. Арганізацыя мае сваю пячатку й штамп.

**10. Спыненьне дзейнасьці вэтэранскай арганізацыі**

Дзейнасьць вэтэранскай арганізацыі горада можа быць спынена па рашэньню агульнага сходу або канфэрэнцыі вэтэранаў.

**РАДА.**



## Жыве цудоўная традыцыя

Скідальчанка Вераніка Міхайлаўна Галубок змалку займаецца ткацтвам. Пакоі яе хаты, як і многіх скідальчанак, упрыгожаны вырабамі мясцовай ткачыхі.

Навучылася ж ткацкаму майстэрству спадарыня Вераніка ад бабулі, і больш за 36 гадоў яна дорыць радасьць людзям, вырабляючы на бабуліных кроснах сапраўдныя цуды.

На фотаздымку: В.М.Галубок дэманструе свае вырабы насельніцтву.

**Фатаграфаваў І.БАРЫСАЎ.**

## АБ НАЦЫІ, МОВЕ Й КУЛЬТУРЫ

З 11 па 15 красавіка ў гарадзенскім Новым Замку праходзіў інфармацыйны тыдзень "Нацыя. Мова. Культура". Арганізаваны ён быў абласной бібліятэкай імя Карскага й Гарадзенскім дзяржаўным унівэрсітэтам. Падчас яго былі праведзены круглыя сталы на тэмы: "Беларуская літаратура сёньня", "Белыя плямы ў гісторыі Беларусі", "Беларускае мастацтва, традыцыі й сучаснасьць", а таксама кніжныя агляды па творчасьці пісьменьнікаў Беларусі й беларускай эміграцыі й іншае.

**А.Д.**

## СУМНЫ ЖАРТ

Людзі, якія праходзілі раніцой мінулага чацьвярга па вуліцы Дзяржынскага, што ў Горадні, былі зьдзіўлены тым, што побач са школай N10 стаялі міліцыянты, а дзеці йшлі ня ў бок яе, а наадварот. Пачуўшы, што будынак замініраваны, некаторыя паскаралі крок, некаторыя, спыніўшыся збоку, абмяркоўвалі здарэньне.

Як потым стала вядома, а пачатку восьмай гадзіны па "02" патэлефанаваў невядомы й сказаў, што ў школе закладзена выбуховае прыстасаваньне. Каб не падвяргаць небясьпецы вучняў і настаўнікаў, дырэктар адмяніў заняткі, а школа была ацэплена нарадамі міліцыі. Сапёры, абшукаўшы ўсе памяшканьні, нічога небясьпечнага не знайшлі. Тым ня менш, страчаны вучэбны дзень, вялікая колькасьць людзей была адарвана ад сваіх паўсядзённых службовых абавязкаў.

Пакуль невядома, хто павінен у тым, што здарылася: ці то хтосьці з вучняў школы вырашыў сарваць заняткі, ці хтосьці з дарослых - проста пажартаваць. Але будзем спадзявацца, што вінаваты будзе знойдзены й адкажа за свой учынак.

**А.НЕСЬЦЯРУК**

## «ПАЛЯЦЯЦЬ» НА... АЎТОБУСЕ

Па запрашэньню прафэсыйнага авіяклюба французкага горада Тулуза гарадзенскі грамадзкі авіягурток у траўні пакажа сваё майстэрства на спаборніцтвах пілотаў-аматараў лёгкіх лятаючых апаратаў у гэтым горадзе.

Завадатар гарадзенскіх авіяаматараў Г.Сурба на запыт кар. "Пагоні" згадаў: "На жаль, адляцець летакамі ў Тулузу мы ня можам. Нас не рэгіструюць ні мясцовыя, ні рэспубліканскія ўлады. А каб адправіцца на летаку, трэба мець пасьведчаньне й свой радыёкод. Таму мы вырашылі везьці свае летакі праз усю Эўропу на аўтобусе, адкруціўшы папярэдне крылы й вінты."

**Г.ДАМІНІКАНСКІ.**

## І БУЛЬБА НЯ МАЕ ПОПЫТУ

Ні з чым вярнуліся дамоў двое гарадзенскіх камэрсантаў, спрабаваўшых прадаць у Санкт-Пецярбургу 12 тонаў бульбы. Усе оптавыя базы горада адмовіліся прымаць на свае склады беларускі другі хлеб. Прычына - санкт-пецярбургскія крамы запоўнены фінскай, швэдзкай і польскай бульбай, якая ўтрымлівае значна менш нітратаў, ды й каштуе таньней.

## ХОЧАШ ХУТЧЭЙ— ПЛАЦІ ДВОЙЧЫ

Сапраўднай абдзіральняй стала беларускім камэрсантам расейска-беларуская мяжа.

За яе перасячэньне з грузам расейскія памежнікі бяруць мытны падатак 10 тысяч расейскіх рублёў. Каб паскорыць афармленьне неабходных дакумэнтаў, нашаму камэрсанту трэба заплаціць яшчэ 30 даляраў ЗША.

У той жа час афіцыйныя асобы беларускага ўраду сьцьвярджаюць, што мытныя бар'еры фактычна ўжо зьнятыя расейскім бокам. Невядома толькі, для каго. Можа, толькі для прадстаўнікоў ураду?

## БЕЛАРУСКІМ— ЦЯЖКАСЬЦІ, ПОЛЬСКІМ — ВЫГОДА

Падпісаньне ў Маскве прэм'ерамі Беларусі й Расеі дакумэнтаў аб адзінай рублёвай зоне ня вельмі ўзрадавала беларускіх спэкулянтаў.Бедалагі чакаюць значнага наплыву сваіх калегаў з усходу, што адмоўна выявіцца на прыбытках першых.

Затое польскія спэкулянты ў эйфарыі. Яны чакаюць значнага павелічэньня асартымэнту танных тавараў на беларускіх таржышчах.

**Падрыхтаваў Г.АСТРОЎСКІ.**

## СУМЕЖЖА

# АНТЭНЫ НА ЎСХОД

Міністар народнае абароны Януш Анышкевіч публічна заявіў, што пасьля адыходу расейскіх войскаў з Польшчы на яе тэрыторыі не паўстане аніякая чужая вайсковая база. Мелася на ўвазе НАТА. Міністар унутраных справаў Анджэй Мільчаноўскі, якому падлягае пэўны абшар вайсковых пытаньняў, быў больш асьцярожны й публічна нічога падобнага не дэкляраваў. Яго нельга абвінаваціць, што ён разьмінуўся з праўдай.

Абодва міністры дасканала ведаюць, што на тэрыторыі польскае дзяржавы ўжо тры гады як функцыянуюць чужыя інсталяцыі, прызначэньне якіх аніяк нельга прызнаць цывільнымі. Зьвесткі аб гэтым дайшлі да польскае прэсы, і журналісты бязвынікова імкнуцца здабыць на гэтую тэму якую-небудзь інфармацыю. Аднак гэта ня ўдаецца ані ў Варшаве, ані ў Вашынгтоне, бо гаворка ідзе аб амэрыканскай падслухоўваючай станцыі.

Апошнім разам напісаў пра яе тыднёвік Ежы Урбана "NIE", ілюструючы тэкст здымкам былой вілы Эдварда Герака ў Кларысаве, ля якой узьнесена вялікая антэнавая мачта. Сёньня віла належыць пасольству ЗША. "NIE" сьцьвярджае, што яе ўласьнікам зьяўляецца рэзыдэнтура ЦРУ ў Варшаве, якая падслухоўвае праграмы радыёстанцый нашых усходніх суседзяў. Карацей кажучы, займаецца г.зв. белым шпегаваньнем.

Здаецца, акрэсьленьне "падслухоўваючая станцыя" тутака зьбівае з панталыку. Абсалютна ня маецца на ўвазе домік з антэнамі, такі, як віла ў Кларысаве. З таго, што мне казалі, вынікае, што гэта хутчэй комплексы аб'ектаў ды станцыяў, старанна падрыхтаваныя й ахоўваемыя. Іх разьмясьцілі на абшары г.зв. ваяводзтваў Усходняе сьцяны, выкарыстоўваючы тэрыторыю, якую займаюць вайсковыя адзінкі, што падлягаюць міністру ўнутраных спраў. Створаны ў іх замкнутыя, выдзеленыя зоны. Сьцерагуць іх жаўнеры Адзінкаў Надвісьлянскіх МУС, якія адказваюць за бясьпеку тых аб'ектаў і ахоўваюць іх ад вонкавага пранікненьня. Аднак аніхто з польскага вайсковага пэрсаналу ня мае права ўваходу ўнутр аб'екту. Там могуць знаходзіцца выключна амэрыканцы - абслуга падслухоўваемых станцый.

- 90% перахопваемай інфармацыі амэрыканскіх падслухоўваючых сеткаў у Польшчы - гэта дадзеныя мілітарнага значэньня, - сцьвярджае афіцэр ВП. На яго думку, тая сетка працуе на патрэбы Пэнтагону й зьяўляецца часткаю амэрыканскае глябальнае сыстэмы радыёэлектранічнага апазнаньня.

Генэрал Кішчак, які кіраваў у 1970-х II Упраўленьнем, сцьвярджае ў сваёй кнізе, што ў 1976г. полк у Пшаснышу, як адзіны ў Варшаўскай Дамове выкрыў факт загаду ўзброеным сілам ЗША на цэлым сьвеце г.зв. "чырвоныя трывогі". Гэта фаза баявой гатоўнасьці, папярэджваючая непасрэдны выбух вайны. Вашынгтон загадаў Red Alert, не інфармуючы аб гэтым нават сваіх хаўрусьнікаў. Толькі праз некалькі гадзінаў інфармацыю з Варшавы былі ў стане пацьвердзіць станцыі радыёэлектранічнага падслухоўваньня СССР.

Усе пытаньні, зьвязаныя з разьвіцьцём сытуацыі за нашай усходняю мяжой, важныя ў роўнай ступені як для Вашынгтону, так і для нас. Варта меркаваць, што польскі ўдзел у функцыянаваньні амэрыканскае падслухоўваемай сеткі не абмяжоўваецца выключна прадстаўленьнем аб'ектаў і выстаўленьнем перад імі вартаўнікоў. На думку дасьведчанага чыноўніка дзяржаўнае адміністрацыі, амэрыканскі ўрад плоціць за эксплуатацыю аб'ектаў. Зьвязаныя з гэтым фінансавыя пытаньні, адрэгуляваныя тайным міждзяржаўным паразуменьнем, - сьцьвярджае інфарматар - з карысьцю для нашага краю.

Застаецца яшчэ пытаньне мэрытарычнага супрацоўніцтва. На яго думку, карыстаюцца гэтымі "здабыткамі" як Упраўленьні Аховы Дзяржавы, так і вайсковыя інфармацыйныя службы.

Польшча спалучае гарантыі сваёй бясьпекі з узмацненьнем вайсковага супрацоўніцтва з Захадам, з Паўночна-атлянтычным Пактам. Польская абаронная дактрына прадугледжвае мэтанакіраванае ўступленьне ў мілітарныя структуры.

У Брусэлі, а таксама ў сталіцах асобных дзяржаваў НАТА энтузіязму ўжо значна меней. Шлях Польшчы да НАТА бачыцца там ня вельмі простым.

- У нашых інтарэсах нарэшце яго адолець, - гаворыць афіцэр ВП. - Калі ня можна адным скокам, дык этапамі, шукаючы кожны раз новых пластоў вайскова-палітычнага супрацоўніцтва з Захадам. Але я ня ўпэўнены, ці сапраўды на першы крок павінна пайсьці такая далікатная матэрыя.

**"Prawo i Zycie", 1993г.**
**Пераклаў з польскай мовы**
**Юры ГУМЯНЮК.**

# САСТУПКІ ЛІЧАЦЬ ПРАЯВАЙ СЛАБАСЬЦІ

Міжнародны скандал, зьвязаны з указам прэзідэнта Расеі аб стварэньні на тэрыторыі СНД і Латвійскай Рэспублікі расейскіх вайсковых базаў, толькі пацьвярджае вывад палітолагаў аб тым, што Расея непрадказальная.

Нягледзячы на тое, што рашучы пратэст краін Балтыі вымусіў Маскву назваць "недоразумением", тэхнічнай памылкай упамінаньне ва ўказе Б.Ельцына Латвіі, не зразумела, хто ж у Расеі прымае такія рашэньні - прэзідэнт, урад, Міністэрства абароны, гэнштаб ці хтосьці яшчэ. Ці кіруемая гэта краіна ўвогуле?

У апошнія месяцы быў ужо не адзін выпадак, калі расейскія ведамствы самастойна прымалі рашэньні, якія мелі міжнародныя вынікі, нават не праінфармаваўшы аб іх адзін другога. Цяпер МЗС Расеі апраўдваецца тым, што нічога ня ведаў аб указе прэзідэнта адносна базаў.

Аднак зваліць віну толькі на вайскоўцаў і прадставіць міністра А.Козырава невінаватым агнецам было б па меншай меры наіўным. У краінах Балтыі яшчэ не забылі, як ён у студзені казаў расейскім паслам, што трэба захаваць вайсковы ўплыў Расеі ня толькі ў СНД, але й у Прыбалтыцы. А зусім нядаўна А.Козыраў публічна абверг факт анэксіі балтыцкіх краін у 1940 годзе, хаця ён быў юрыдычна прызнаны летувіска-расейскай дамовай 1991 года. У гэтым кантэксьце трэба нагадаць і пра пастаянныя абвінавачваньні А.Козырава ў адрас балтыцкіх краін ( у тым ліку й Летувы), дзе, па яго словах, парушаюцца правы рускіх і іх неабходна абараняць. Пазыцыя Б.Ельцына й А.Козырава ў адносінах краін Балтыі стала больш жорсткай пасьля сьнежаньскіх выбараў у парлямэнт. Яны сталі часьцей акцэнтаваць нацыянальныя інтарэсы Расеі на тэрыторыі былога СССР. Выступаючы па расейскаму тэлебачаньню, А.Козыраў так растлумачыў перамену ў сваіх устаноўках:"Мы былі б дрэннымі дэмакратамі і я перастаў бы паважаць сябе, калі б не прыслухоўваўся да думкі выбаршчыкаў." Зразумела, ён меў на ўвазе перш за ўсё тых выбаршчыкаў, якія сумуюць па велічы імпэрыі й патрабуюць навесьці парадак "в ближнем зарубежье".

Калі дапусьціць, што Расея будзе сваю зьнешнюю палітыку па лёгіцы імпэрскага мысьленьня, то не цяжка зразумець, чаму яна ўсё часьцей аказвае на балтыцкія краіны націск.

Як вядома, Эстонія й Латвія ў адносінах з Расеяй захаваюць даволі цьвёрдую пазыцыю. Таму жорсткасьць Масквы да Рыгі й Таліна хтосьці схільны лічыць адказнай рэакцыяй.

У параўнаньні з сваімі балтыцкімі суседзямі Летува, здавалася б, у адносінах з Масквой прытрымліваецца больш прагматычнай, умеранай лініі. Толькі ці дае гэта чакаемы вынік? Расея да гэтага часу не ратыфікавала дамову аб рэжыме найбольшага добраспрыяньня ў гандлі (падпісаная яшчэ ў лістападзе мінулага года), пагадненьне аб прававой дапамозе.

Прэм'ер А.Шлезявічус канстатуе, што яго спробы паразмаўляць з В.Чарнамырдзіным не далі выніку, а накіраваныя яму лісты засталіся без адказу.

Па словах А.Шлезявічуса, Расея пачала праводзіць агрэсіўную эканамічную палітыку ў адносінах да краін Балтыі.

Замест таго, каб зацьвердзіць рэжым найбольшага добраспрыяньня ў гандлі з Летувой, 15 сакавіка ўрад Расеі ўвёў двухразовыя мытныя падаткі. Для прадпрыемстваў Летувы, якія пакуль ня здолелі пераарыентавацца на супрацоўніцтва з Захадам, могуць быць складанасьці ў адносінах з Усходам.

Такім чынам, умеранасьць Летувы практычна не прынесла ёй дэвідэнтаў. Расея, як і раней, любыя саступкі лічыць праявай слабасьці, гэта вядзе толькі да ўзмацненьня ціску. Апошні прыклад таму - Летуве навязваюць пагадненьне аб вайсковым транзіце.

Бязпэрспэктыўнасьць палітыкі саступак, здаецца, пачынае разумець і прэм'ер А.Шлезявічус, які заявіў, што Расея будзе прытрымлівацца ўстаноўленых абмежаваньняў. "Нам давядзецца прыбегнуць да мэраў у адказ па Калінінграду." Толькі ці хопіць духу?

Бясспрэчна адно: Масква будзе больш лічыцца з краінамі Балтыі, калі яны стануць дзейнічаць разам пры больш умелым выкарыстаньні дапамогі Захаду.

**LR**



# ГАТЭЛЬ У РУКАХ БЕЛАРУСА

Канстаньцін Паўлавіч Пляшко трапіў да Вялікабрытаніі напрыканцы другой сусьветнай вайны. Нямала выпрабаваньняў выпала на долю беларуса. Каб распачаць сваю справу, даводзілася фарбаваць платы, разносіць пошту, будаваць катэджы. Найбольшы посьпех прыйшоў тады, калі зарганізаваў сваю вытворчасьць. Зараз спадар Пляшко на рэньце, справу вядуць яго сыны. Але не сядзіцца на месцы няўрымсьліваму беларусу. Нядаўна на аукцыёне Канстаньцін Паўлавіч набыў гатэль бліз горада Нюўмаркэт. У гатэлі 24 нумары, самыя шыкоўныя каштуюць 115 фунтаў сьцерлінгаў на суткі. Агульны прыбытак ад гатэля - паўтысячы фунтаў на тыдзень. Але гэта не мяжа. Спадар Пляшко распачаў будову яшчэ аднаго гатэля з аўтастаянкай, рэстаранам, барам, більярдам, басэйнам.

**НА ЗДЫМКУ: агульны від гатэля, якім валодае беларус з Клецку.**

В. ПАНУЦЭВІЧ

# ГОРАДЗЕНШЧЫНА Ў НАЦЫЯНАЛЬНЫМ РУХУ Ў 1918–1919 ГАДОХ

## 17. Некаторыя высновы

У папярэдніх нумарах газэты мы падалі даволі падрабязны агляд падзеяў, якія адбыліся на Горадзеншчыне 45 гадоў таму, калі ў надзвычай цяжкіх і складаных палітычных абставінах, несспрыяльных для беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, беларускія адраджэнцы рабілі вялікія высілкі аднавіць нацыянальную сувэрэннасьць хоць на частцы свае роднае зямлі. На аснове дакумэнтальных матэрыялаў мы паказалі адну з тых варожых сілаў, якая гэтаму супрацьставілася - польскі імпэрыялізм, што ня менш крывава ад маскоўскага душыў найменшыя праявы беларускага жыцьця. Заходнія назіральнікі ўжо тады не прарочылі нічога добрага для польскага шавінізму. Гэтак у 1921 годзе ньюёрская газэта "THE NATION" пісала:

"На мапе новай Эўропы найбольшы пляштар, наклеены дыпляматамі-дыктатарамі, называецца Польшчай. Праз 10, калі ня менш, гадоў на эўрапэйскай мапе ад яго не застанецца й сьледу... Творчага надзвычай мала ў сучаснай Польшчы. Гаварыць аб ёй як аб рэспубліцы ці дэмакратыі - трагічны жарт. Гэтак званы варшаўскі ўрад амаль не функцыянуе. Ён складаецца з арыстакратыі, якая жыве катэгорыямі, застарэлымі на некалькі стагоддзяў. Урад гэты нічога ня робіць і ня здольны штосьці-колечы зрабіць для народу.

Некалькі гадоў адзінай ягонай справай было вядзеньне бясьсэнсавай вайны супраць маладых суседніх дзяржаваў. У дачыненьні да іншых народаў яны стасавалі гвалт і прыгнечаньне, забыўшыся, што самі толькі што выйшлі з няволі.

Толькі цуд можа ўратаваць Польшчу. Там адно дылетанты, пыхлівыя панкі, сярэднявечная апартуністы..."

Гісторыя пацьвердзіла гэтае прароцтва амэрыканскай газэты.

Сёньня, з пэрспэктывы часу можа некаму здавацца, што беларуская спроба ў Горадзеншчыне адбудаваць сваё ўласнае жыцьцё ня выявіла належнага збройнага супраціву польскай агрэсіі, хоць бы так, як год пазьней случчакі супраціўляліся агрэсіі бальшавіцкай.

Такі закід быў бы несправядлівы, маючы на ўвазе тую велізарную палітычную, дыпляматычную й нацыянальную рухлівасьць, якую выявілі беларусы Горадзеншчыны, і неспрыяльныя абставіны. Беларусы Горадзеншчыны шырэй вынесьлі беларускае пытаньне на міжнародную арэну. Яны ў надзвычай кароткім часе амаль з нічога стварылі пачаткі свайго войска, сваю адміністрацыю, сваё школьніцтва, аднавілі эканамічнае жыцьцё. Ня здолелі дасягнуць аднаго й найважнейшага: знайсьці зразуменьне для свае справы ў магутных таго часу, што стварылі новую эўрапэйскую мапу. Але гэта ня было заданьнем аднае Горадзеншчыны, а справай усебеларускай. На ўсе ж заклікі ўраду БНР да сяброў Антанты дапамагчы беларускаму народу стварыць беларускае войска ды ўзяць Беларусь пад дыпляматычную ахову перад агрэсарамі - усе засталіся нямыя й глухія. У такіх умовах слаба ўзброеныя беларускія аддзелы Горадзеншчыны ня былі ў сілах выступіць ані супраць палякаў, якіх падтрымлівала, карміла й узбройвала Антанта, ані супраць бальшавікоў. Нават украінскі рух ня быў так ізаляваны, як беларускі. Украінцам дапамагалі спачатку немцы й аўстрыйцы, а пасьля - французы. Аднак, паколькі французкая дапамога была невялікая, украінцы таксама ня здолелі супрацьставіцца абодвум агрэсарам - бальшавікам і палякам.

Цяжка таксама правесьці поўную аналёгію паміж Горадзеншчынай і Случчынай, якая ў 1920 годзе рабіла збройны супраціў бальшавікам. Случчына ў той час мела большыя асновы для супраціву. Тагачасны ўрад БНР меў вялікую баявую групу на Палесьсі, якая дзейнічала ў раёне Мозыра й Калінкавіч з галоўным напрамкам маршруту на Рэчыцу й Гомель. Перад случчакамі быў толькі адзін працівнік - бальшавікі, бо палякі напачатку нават спрыялі арганізацыі Слуцкай Брыгады. Пазьней, аднак, у Рызе палякі пайшлі на ўгодніцтва з бальшавікамі ды на іхнее жаданьне інтэрнавалі войска БНР, якое дзеела ў гэтым раёне.

На заканчэньне трэба падкрэсьліць, што апісаныя вышэй Горадзенскія падзеі й крывавы зьдзек палякаў над беларусамі павінен быць для нас адным з гістарычных "мэмэнто" для магчымых будучых падзеяў.

## 18. Пост скрыптум

Ня шмат асталося між жывымі ўдзельнікаў тварэньня беларускага войска ў Горадні ў 1918-1919 гадох. На эміграцыі, у Задзіночаных Штатах Амэрыкі, жыве адзін з найбольш актыўных удзельнікаў гэтых падзеяў - генэрал Мікола Дзямідаў. Ягоная біяграфія, якую зьмяшчаем з нагоды ягонага 75-годдзя, добра адлюстроўвае той складаны шлях, якім даводзілася ісьці не аднаму беларускаму патрыёту-адраджэнцу.

Спадар Мікола Дзямідаў актыўны ў беларускім вызваленчым руху ўжо з раньняй маладосьці й да сёньняшняга дня ўсыцяж поўны энтузіязму ў сваёй службе Бацькаўшчыне й беларускаму народу.

Нарадзіўся ён 10 сьнежня 1888 года ў беларускай сям'і Станіслава Катнароўскага й Алесі Каліноўскай, аўдавеўшай у тым годзе ды выйшаўшай зноў замуж за акцызнага ўрадаўца Яна Дзямідава, які ўсынавіў Міколу 10 сьнежня 1889г., даўшы яму сваё прозьвішча.

Выхоўвалі маладога Міколу ў асноўным дзяды яго Аляксандр Каліноўскі, бацька ягонай маткі а брат слаўнага Кастуся Каліноўскага, і Станіслаў Катнароўскі, бацька яго бацькі, каторы меў маёмасьць у Ломжы.

У 1899 г. Мікола паступіў у першую клясу Ломжынскай філялягічнай гімназіі і вучыўся ў ёй 5 з паловай гадоў, гэта значыць да сярэдзіны 1905 г., калі пры Сьвіслацкай Настаўніцкай Сэмінарыі здаў экзамен на настаўніка двухклясавых пачатковых школаў.

У 1907 г. атрымлівае пасаду ў канцэлярыі службы руху Праўленьня Прывісьлянскіх Жалезных Дарог і ўступае на вячэрнія курсы пры Варшаўскім Унівэрсітэце гістарычна-філялягічнага факультэту як вольны слухач.

У 1910 г. пры Беластоцкім Рэальным Сярэднім Вучылішчы здае экзамэн на настаўніка павятовых школаў і ад 1-га кастрычніка 1911 г. назначаецца кіраўніком Беластоцкага двухклясавага Жал.Дар.Вучылішча Палескіх Жал.Дарог.

У 1912 г. пры Віленскім Настаўніцкім Інстытуце М.Дзямідаў праслухаў курс з пэдагогікі й мэтодыкі, а таксама лекцыі з гісторыі Заходняга Краю (Беларусі-Летувы).

18 ліпеня 1914 г. М.Дзямідаў быў пакліканы на ваенную службу й быў прызначаны на розныя становішчы ці то ад'ютанта, ці справавода ў гаспадарчай частцы розных вайсковых адзінак у Ковеншчыне. У канцы студзеня 1915 г. быў назначаны ад'ютантам начальніка гарнізону г.Паняважа і справаводам у канцылярыі начальніка. У ліпені таго ж году быў пераведзены на пасаду справавода мабілізацыйнага аддзелу ахвіцэрскага запасу ў Петраградзе, дзе ў канцы 1915 года наведваў вячэрнія курсы пры ваеннай Мікалаеўскай Акадэміі.

У кастрычніку 1916 г. быў накіраваны ў Першае Паўлаўскае Ваеннае вучылішча, якое скончыў 1 лютага 1917 г. з рангай ахвіцэра. Спачатку быў курсавым ахвіцэрам пры 7 роце названага вучылішча, а пасьля рэвалюцыі 1917 года ўступае ў Хаўрус ахвіцэраў рэвалюцыянэраў і прызначаецца Ноўгародзкім Абласным Камісарам. У гэтым часе ён наведаў Дзьвінск, дзе быў захоплены немцамі, якія занялі на пачатку сакавіка 1918 г. усходнія часткі Беларусі. Там жа ён быў інтэрнаваны ў лягэры для ваеннапалонных.

Пасьля капітуляцыі Нямеччыны ў канцы лістапада 1918 г. быў звольнены з палону й падаўся ў Вільню, дзе адразу ўлучыўся ў арганізацыю беларускага войска.

20 сьнежня 1918 г. разам з групай ген. Кандратовіча й уладамі БНР пераехаў у Горадню і тут быў назначаны камандантам м.Горадні.

На становішчы каманданта Горадні ён прабыў да 1 чэрвеня 1919 г. - гэта значыць да свайго арышту палякамі. На гэтым становішчы выявіў вялікія арганізацыйныя здольнасьці. За параўнальна кароткі час, пры цяжкіх палітычных і гаспадарчых умовах, Гарадзенская Камандатура была ўзорна зарганізаваная. Тут паўстаў конны гусарскі эскадрон, асобны батальён для нясеньня патрульнай і гарнізоннай службы, аркэстра, жандармэрыя, чыгуначная, паштовая й тэлеграфная службы. У Горадню, як у беларускую сталіцу, прыязджалі аліянцкія місіі - амэрыканская, французкабрытыйская, і парадак, дысцыпліна вайсковых і цывільных уладаў годныя былі ўвагі, што адзначалі як замежныя місіі, так і палякі, уступіўшы ў Горадню.

Апрача працаў у Камандатуры, М.Дзямідаў наведваў навакольныя мястэчкі й дапамагаў у прызыўных працах наборных пунктаў ды ў арганізацыі павятовых беларускіх камандатураў.

У часе прыезду амэрыканскай місіі ў Горадню пад старшынствам палк.Грова Дзямідаў арганізаваў добрую ахову місіі, бо палякі хацелі авантурніцтвам падарваць аўтарытэт беларускіх уладаў. Ён жа сам адвёз гэтую місію ў Лапы. У часе прыезду французкай місіі палкоўніка Рэбуля ў красавіку 1919 г. у Горадню М.Дзямідаў як камандант Горадні, будучы ў той час сам у Коўні, асабіста праводзіў названую місію ў Горадню, а пасьля аўтамабільнай аварыі ў Ласосьне ля Горадні дапамог іншым сродкам транспарту дабрацца місіі ў горад.

Ён жа добра стаяў на старожы беларускай справы супраць польскай дывэрсіі, арыштоўваючы Цьвірку-Гадыцкага і яго агэнтаў і тым самым паралізуючы польскую акцыю за далучэньне Горадзеншчыны да Польшчы. За гэта ён быў арыштаваны на адумысны тэлеграфічны загад з Варшавы ў першым дні польскай расправы ў Горадні, 1 чэрвеня 1919 г.

У канцы ліпеня 1919 быў інтэрнаваны ў Беластоцкі лягэр "Ст.Разьдзельная", дзе прабыў да вясны 1920 года.

Выпушчаны на волю, ён паступіў на службу ў беларускае войска, спачатку ў ахвіцэрскую школу, што тварылася на аснове дагаворанасьці з Пілсудзкім, а пасьля, летам таго ж года (у часе бальшавіцкага паходу на Варшаву), - у армію Балаховіча. Ген. Булак-Балаховіч вызначыў яго начальнікам штабу 1-е Беларускае Брыгады. Тут ён, калі бальшавікі былі пад Варшавай, арганізаваў беларускі асобны батальён ды з ім браў удзел у баёх у раёне Палесься. У часе хваробы камандзіра Бел.Брыгады войскаў Балаховіча камандаваў гэтай брыгадай.

У 1922 годзе кандыдаваў на пасла ў польскі Сойм ад Беластоцкай акругі. Напачатку 1923 г. разам з іншымі беларускімі дзеячамі быў выселены з зах.Беларусі і пераехаў у Дзьвінск, што быў пад Лацьвіяй. Тут працаваў у школьніцтве і ў грамадзкіх арганізацыях. Некаторы час быў у Коўні, а пасьля асеў у Рызе, дзе прабыў аж да прыходу немцаў у 1941 годзе, разьвіваючы там разам з К.Езавітавым шырокую беларускую культурна-нацыянальную дзейнасьць.

Бальшавікі, захапіўшы Латвію ў 1940-41 годзе, арыштавалі М.Дзямідава і трымалі яго некаторы час у Маскве на Лубянцы, адкуль яму, аднак, удалося вызваліцца.

Пры немцах М.Дзямідаў дапамагаў арганізаваць беларускае школьніцтва ў Латгаліі, а ў 1943 г. пераехаў у Ліду і там працаваў Акруговым Школьным Інспэктарам. Тут ён арганізаваў беларускі батальён Самаахвовы.

У 1944 г. сп.М.Дзямідаў працаваў у вайсковым Беларускім Штабе пры Цэнтральнай Радзе ў якасьці дзяжурнага штаб-ахвіцэра Канцылярыі Прэзідэнта БНР.

Пасьля капітуляцыі Нямеччыны прабываў у францускай зоне, дзе быў адным з ініцыятараў і арганізатараў Сабору БАПЦ у Канстанцыі ў 1948 г. і ўзнаўленьня БАПЦ пасьля адыходу беларускага япіскапату да Расейскай Зарубежнай Царквы.

Пераехаўшы ў Чыкага ў 1950 годзе, улучыўся ў Беларуска-Амэрыканскую Нацыянальную Раду, супрацоўнічаў з Я.Варонкам і Я.Чарапуком. Потым уступіў у Згуртаваньне Беларусаў у штаце Ілінойс. Бярэ дзейны ўдзел у беларускім царкоўным жыцьці, у міжнацыянальных зборках і дыскусіях, заўсёды поўны энтузіязму й бадзёрасьці.

(Пачатак у №№ 4-12).

## ГАНДЛЮЕ ЦАРКВА

У шапіку Сьвята-Уладзімірскай царквы, што ў Горадні, для беларускіх праваслаўных вернікаў распачаўся продаж беларускамоўных сьвятых кніжак, паштовак. З найбольш цікавых сьвятых выданьняў тут можна набыць Беларускі праваслаўны малітоўнік, кароткі нарыс гісторыі праваслаўнай царквы на Беларусі ды іншае.

Дарэчы, пры Сьвята-Уладзімірскай царкве месяцаца Гарадзенская філія Беларускай праваслаўнай моладзі.Інтэрв'ю з адным з завадатараў гэтай справы чытайце ў бліжэйшых нумарах "Пагоні".

Г.ПАДЛЯШУК.

## НЕ ЗАГІНЕ МУЗЫКА

У культурным жыцьці Гарадзенскай вобласьці значная падзея - утворана асацыяцыя кампазытараў. На ўстаноўчым сходзе абрана яе праўленьне.

Асацыяцыя ставіць мэту найперш аб'ядналь у гэтыя складаныя часы ўсіх кампазытараў і не даць загінуць іх мастацтву, паколькі Саюз кампазытараў Беларусі на сёньняшні дзень ня здольны іх падтрымліваць. У Горадні нават не існуе адпаведнай студыі, дзе можна было б запісаць свой канцэрт.

У планах асацыяцыі арганізацыя архіва, абарона аўтарскіх правоў, арганізацыя канцэртаў з мэтай прапаганды музыкі гарадзенскіх кампазытараў у сябе дома й за межамі. І галоўнае, на што зьвярталася ўвага: захаваць нашу багатую музычную спадчыну, каб перадаць яе нашчадкам. На сходзе неадночы падкрэсьлівалася, што Гарадзенская школа кампазытараў дамінуе сярод іншых на Беларусі. Запланавана ў бліжэйшы час правесьці канцэрт-прэзэнтацыю асацыяцыі.

(ір)

